


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

12 ліпеня 2002 года

№ 28 (377)
Выходзіць па пятніцах




## Навіны рэгіёна

### На Нарачы спявалі

МЯДЗЕЛ. У нядзелю ў пяцідзесяты раз прайшло свята песні ля абеліска на беразе возера Нарач.

Раней яно называлася «Нарачанскія росы», а апошнія гады — «Пеўчае поле». Прынялі ў ім удзел хары, народныя ансамблі з Мінскай вобласці. Асабліва шмат было з Маладзечна. А Іосіф Сушко, кіраўнік народнага ансамбля песні і танца «Спадчына», быў сярод ганаровых гасцей фестывалю.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Сажалка за тры дні

МАЛАДЗЕЧНА. У вёсцы Якавічы Лебедзеўскага сельсавета сёння завершаць капаць сажалку.

Капалі яе тры дні. Кошт работ - 700 тысяч рублёў. У сажалцы можна купацца. А таксама яна патрэбная для пажарнай бяспекі – з сажалкі змогуць браць ваду для тушэння агню.

**Ірына РАБУШКА.**

### Крывавая Купальская ноч

ВІЛЕЙКА. У Купальскую ноч 47-гадовы мужчына забіў сваю 37-гадовую сужыцельку і яе 74-гадовую маці.

Пасля злачынца падпаліў пакой, каб схаваць сляды забойства, і знік. А 4-й гадзіне раніцы 7 ліпеня яго знайшлі павешаным у лесе недалёка ад чыгуначнага прыпынку "Зеніт". Матыў злачынства ўстанаўлівае следства. Падрабязнасці чытайце на 3-й старонцы.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Адкрыў лік

АШМЯНЫ. У ноч з 3 на 4 ліпеня ў агні ў сваім доме загінуў 71-гадовы пенсіянер з Міхайлоўшчыны.

Прычына пажару – курэнне ў ложку ў нецвярозым стане. Гэта першы такі выпадак у раёне з пачатку года.

**Ірына РАБУШКА.**

### Скаргі падзейнічалі

СМАРГОНЬ. З аўторка галоўную вуліцу райцэнтра рашэннем райвыканкома зноў адкрылі для праезду аўтамабіляў.

Месяц таму вуліцу Савецкую вырашылі ператварыць у пешаходную зону па прыкладу Цэнтральнай плошчы і часткі вуліцы Прытыцкага ў Маладзечне. Але ў Смаргонскі райвыканком пайшлі скаргі ад уладальнікаў гандлёвых радоў, што месцаў тут, і іншых гараджан.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Першы канкурэнт

ВАЛОЖЫН. У суботу ў райцэнтры адкрыўся прыватны магазін, у якім можна купіць складанабытавую тэхніку. Раней гэта можна было зрабіць толькі ва універмагу райспажыўтаварыства.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### За даведкі трэба плаціць

АСТРАВЕЦ. З пачатку месяца жыхары раёна плацяць ад 500 да 1000 рублёў за выдачу даведак і выпісак з рашэнняў сельскіх выканкомаў, аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі (ЖКГ) райвыканкома і раённага унітарнага прадпрыемства ЖКГ.

Даход ідзе ў сельскія і раённы бюджэты. Загадчык фінансавага аддзела райвыканкома **Мікалай Вайцяхоўскі** сказаў, што грошы за выдачу даведак ужо бяруць, але дакладную суму выручкі ён не назваў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 13 ліпеня

| | |
|---|---|
| **Мінск** 15°С (уначы) 27°С (удзень) | **Вільня** 13°С (уначы) 24°С (удзень) |

Нядзеля, 14 ліпеня

| | |
|---|---|
| **Мінск** 12°С (уначы) 25°С (удзень) | **Вільня** 12°С (уначы) 23°С (удзень) |

# Ешце на здароўе

**МАЛАДЗЕЧНА. У самым разгары сезон ягад і грыбоў. Штодзень можна бачыць, як людзі гандлююць дарамі прыроды на міні-рынку, што па вуліцы Скарыны.**



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**На міні -рынку па вуліцы Скарыны гандлююць у антысанітарных умовах. Маладзечна, 8 ліпеня.**

Вязуць іх з прыватнага сектара і бліжэйшых лясоў і вёсак. Цэны трымаюць "будзь здароў" – саступаць не хочуць. Расцэнкі тут вышэйшыя за базарныя. Так як і верагоднасць купіць грыбы і ягады, забруджаныя радыяцыяй. Звычайна гандляры не правяраюць іх на радыяцыю. Маўляў, самі ядзім, дзецям даём – і жывыя. Невялікая колькасць клапатлівых гаспадароў з ходу можа назваць адрас, дзе праводзяць радыяметрычны кантроль.

Загадчыца аддзялення гігіены харчавання цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Людміла Майко** гаворыць:

— Міні-рынак не прыстасаваны для гандлю грыбамі і ягадамі. Тут імі гандляваць нельга. Да таго ж, усе гандляры павінны памятаць: трэба абавязкова праводзіць радыяметрычны кантроль прадукцыі. Каб атрымаць гарантыю, што ягады ці грыбы бяспечныя для здароўя. Без гэтай даведкі гандляваць нельга. Ўбачыць гандляроў з міні-рынку – справа міліцыі. Толькі ў іх ёсць на гэта правы.

Пакупнікоў асабліва шмат вечарам. Пра даведку аб радыяметрычным кантролі звычайна не пытаюцца. Кажуць, анічога яна не дакажа. Усё навокал у радыяцыі. На базары таксама не ўсе з даведкамі.

Намеснік начальніка аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю ГРАУС **Іван Апанасевіч** сказаў, што ў горадзе вельмі шмат суб'ектаў гаспадарання.

— Кантралюем на колькі можам, — кажа ён. — Але 2 працэнты са 100, што мы даберомся да міні-рынку. Часу не хапае. Адно магу сказаць, калі нашы супрацоўнікі там будуць, то абавязкова прымуць меры. Ці хто-небудзь дашле пісьмо на імя в.а. начальніка міліцыі, што на мінірынку гандлююць ягадамі і грыбамі без дазволу, туды накіруюць нарад міліцыі. Гандляроў папярэдзяць або аштрафуюць на 10 мінімальных заробкаў.

Гандлярам і сапраўды тут прывольна. Гавораць, міліцыя не ганяе. Гандаль ідзе добра. Пакупнікоў больш, чым тавару.

**Ірына РАБУШКА.**

# Рымдзюны запрашаюць на фестываль

**АСТРАВЕЦ. 14 ліпеня ў Рымдзюнах пройдзе чацвёрты рэгіянальны фестываль-конкурс выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля".**

Сёлета ў фестывалі прымуць удзел выканаўцы з усіх раёнаў нашага рэгіёна. Упершыню на "Адной зямлі" выступяць прадстаўнікі Мядзельшчыны.

"Рэгіянальная газета" з'яўляецца адным з заснавальнікаў фестываля. Перад яго пачаткам успомнім некаторыя адметныя моманты з мінулых фестываляў.

**ЧЫСЦЬ, 1999 ГОД**

"Пасля выступлення малодшай групы журы доўга і цяжка вызначала лепшых. Прагучала думка "карыстацца рэгіянальнай палітыкай":

— Трэба, каб прадстаўнікі кожнага раёна ўвайшлі ў тройку лепшых. Інакш цяжка будзе разлічыцца за выдаткаваныя для паездкі на фестываль бюджэтныя грошы.

Праўда, ад такой пазіцыі адразу адмовіліся.

Маладзечанская паэтка **Таіса Трафімава** разам з выкладчыцай Маладзечанскага музвучылішча **Аленай Атрашкевіч** спецыяльна для свята напісалі песню "Адна зямля". На закрыцці свята, у гала-канцэрце, яна прагучала гімнам фестывалю."

**"РГ" №29 (221) ад 16 ліпеня 1999 года.**

**ВАЛОЖЫН, 2000 ГОД**

"Фестываль "Адна зямля" ў Валожыне чымсьці нагадаў самы першы нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне. Багата гледачоў, адчуванне свята, прыгожыя галасы з фестывальнай сцэны."

"Калі параўноўваць з мінулым годам, то ўзровень выканаўцаў прыкметна вырас. З'явіліся новыя імёны, а мінулагоднія ўдзельнікі выглядалі больш прафесійна".

**"РГ" №26 (271) ад 30 чэрвеня 2000 года.**

**АШМЯНЫ, 2001 ГОД**

"У трох узроставых катэгорыях выступілі 22 спевакі. Прычым, калі вядучыя аб'яўлялі выхад ўдзельніка, то не згадвалі, адкуль ён. Загадчыца аддзела культуры Ашмянскага райвыканкома **Галіна Балінская** патлумачыла, што гэта знарок. Журы бачыць і чуе толькі выканаўца і яго выступленне."

**"РГ" №22 (323) ад 29 чэрвеня 2001 года.**

Калі спаборніцтвы ў першых двух фестывалях праходзілі ў дзвюх ўзроставых групах, то, пачынаючы з ашмянскага, – у трох. І яшчэ. Тыя, хто атрымліваў Гран-пры на мінулых фестывалях, абавязкова выконвалі песні маладзечанскага кампазітара Алены Атрашкевіч. Вечарам 14 ліпеня будзе вядома, ці прадоўжыцца гэта заканамернасць.

### Фестываль "Адна зямля"

*ПРАГРАМА*
**14 ліпеня, Рымдзюны**




| | |
|---|---|
| 14.00 | Святочнае адкрыццё |
| 14.15 | Конкурс малодшай узроставай групы |
| 15.30 | Канцэрт пераможцаў раённага агляду дзіцячай эстраднай творчасці "Масты надзей" |
| 16.00 | Конкурс сярэдняй узроставай групы |
| 17.30 | Канцэрт гурта сучаснай харэаграфіі "Імпульс" Ашмянскага РДК |
| 18.00 | Конкурс старэйшай узроставай групы |
| 19.30 | Канцэрт мастацкай самадзейнасці Ашмянскай мытні |
| 20.30 | Падвядзенне вынікаў. Заключны гала-канцэрт. |

### Пераможцы мінулых конкурсаў-фестываляў "Адна зямля":

**1999 ГОД**
**Гран-пры:** Дзмітрый Мінько (Маладзечна)
**Малодшая група:** Хрысціна Хадзько (Маладзечанскі раён)
**Старэйшая група:** Алеся Кульша (Маладзечна)

**2000 ГОД**
**Гран-пры:** Даша Урызчанка (Маладзечанскі раён)
**Малодшая група:** Наталля Салава (Вілейскі раён)
**Старэйшая група:** Ірына Гаўрыс (Маладзечанскі раён)

**2001 ГОД**
**Гран-пры:** Людміла Сінікевіч (Ашмяны)
**Малодшая група:** Анастасія Пятроўская (Валожынскі раён)
**Сярэдняя група:** Дзмітрый Танюкевіч (Маладзечна)
**Старэйшая група:** Аляксандр Сініковіч (Смаргонскі раён)

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Аляксандра ЛАЗОЎСКАГА.

Цэлы свет змяшчаецца ў дзіцячым малюнку: юныя таленты з Беразінскага прывезлі свае работы ў Вязынку.

■ РЭХА ЮБІЛЕЮ

# На паклон да Песняра

**МАЛАДЗЕЧНА. Рабіць справаздачу са свята — складана і адказна. У той сотні радкоў, што адведзены рэдактарам для рэпартажа, як перадаць яго дух, не прапусціць галоўных момантаў, выказаць думкі людзей і сваімі ўласнымі назіраннямі і ўражаннямі падзяліцца. А калі свята гэтае прымеркавана да юбілею вялікага песняра Янкі Купалы, ладзілася ў Вязынцы і мела статус рэспубліканскага?..**

З самай раніцы прыехаў на радзіму песняра: хацелася яшчэ да афіцыйнага шумутлуму пагутарыць з людзьмі – што для іх Янка Купала, ці спраўдзілі мы ягоны запавет "людзьмі звацца"? А яшчэ паглядзець, як разгортваюць святочныя "абрусы" і гаспадары — маладзечанцы, і госці з іншых раёнаў Міншчыны.

Усцешыла і тое, што малая Купалава радзіма як след падрыхтавалася да юбілею, і што нямала ў песняра прыхільнікаў самага рознага ўзросту – з'язджаліся яны і аўтамабілямі, і электрычкамі, ішлі пешшу, здавалася, з розных куткоў Беларусі. І што падрыхтаваліся да свята і народныя майстры, і кнігавыдаўцы, і літаратары, і шматлікія творчыя калектывы – кожны меў магчымасць і сябе паказаць, і на іншых паглядзець. Кідаліся ў вочы яркія, прыгожыя строі артыстаў і плямістая форма байцоў спецназа з дубінкамі (апошніх ці не занадта было на свяце людзей інтэлігентных і законапаслухмяных), і што месцы для членаў афіцыйных дэлегацый ля галоўнай сцэны былі абгароджаны чырвонай стужкай і зноў жа ахоўваліся ад "пранікнення" туды ўсіх астатніх гледачоў. Але падобныя недарэчныя мазкі ўсё ж няздольныя былі сапсаваць настрой тым, хто прыйшоў пакланіцца песняру.

**Уладзімір Някляеў**, паэт:

— У які мы бок ні пойдзем – усюды сустрэнем Купалу, нягледзячы на тое, што ёсць іншыя значныя постаці. Зрэшты, разумныя людзі так заўсёды рабілі: выбіралі некага аднаго і стараліся зрабіць з яго генія, які б дастойна прадстаўляў у чалавечай суполцы на гэтай зямлі свой народ. Тое, што рабілася за савецкім часам, акурат і павінна было прадстаўляць савецкае, а не беларускае, нашае. Тады многія нават блыталі – дзе тут Колас, дзе Купала. Напачатку 90-х мінулага ўжо стагоддзя адносіны да "волатаў беларускага духу" пачалі вызначацца інакш. Але, на жаль, пакрысе ўсё зноў вяртаецца назад. Ды я аптыміст і ўпэўнены, што інстынкт самазахавання нацыі спрацуе.

**Павел Божка**, выхаванец Беразінскай народнай студыі выяўленчага мастацтва:

— Пра Янку Купалу ведаю, хаця ў Вязынцы першы раз. Я нават спрабаваў маляваць яго. Але найлепш атрымліваецца маляваць прыроду, а тут яна вельмі прыгожая.

**Андрэй Барткевіч**, артыст Мінскага абласнога драматычнага тэатра:

— У Янкі Купалы патрэбна вучыцца любові – да Радзімы, да мовы, да жыцця наогул. Вельмі радуе, што сёння тут сабралася столькі многа сапраўдных вучняў.

**Лізавета Пятроўская**, кіраўнік фальклорнага гурта "Гасцінец" Ракаўскага СДК, Валожынскі раён:

— Дзякуй Янку Купалу, што ён быў на гэтай зямлі. Ну, а мы, яго нашчадкі – беларусы, — будзем шукаць папараць-кветку, кветку шчасця.

Іераманах **Арсеній**, святар Рускай праваслаўнай замежнай царквы:

— Госпадзь Бог падзяліў народы і даў ім сваю мову. Сярод іх і беларускі народ. А народу даў сваіх песняроў – Купалу, Коласа, Багдановіча... Народ знікае, раствараецца між іншых, калі не шануе сваю мову, забывае пра вялікіх людзей.

Янка Купала – самая яркая грань у брыльянне іншых выдатных людзей Беларусі і ў той жа час з'яўляецца гранню ў бясцэнным брыльянне сусветных геніяў. Праз іх услаўляецца Бог.

**Іван МЁДАЎ.**



Фота Аляксандра ЛАЗОЎСКАГА.

«Кладачка тоненька, вада халодненька». Хажоўскія артысты - кавалеры далікатныя.

■ МІНУЛАЕ

## Дзе гасцяваў Купала

**28 чэрвеня члены гуртка "Валошкі" Куцькаўскай СШ з Мядзельскага раёна зрабілі веласіпедны выезд, прысвечаны 120-м угодкам з дня нараджэння Я. Купалы, у вёску Казаноўшчыну Спондаўскага сельсавета на Астравеччыне, дзе ў 1914 годзе гасцяваў паэт.**

Гаспадар дома Юзаф Хадорскі ветліва сустрэў нас. Не паспелі пераступіць парог і паведаміць мэту візіту, як гаспадар выставіў на стол пачастункі.

— **Раскажыце, калі ласка, Юзаф Францавіч, як гасцявалі ў Вас Янка Купала і Паўліна Мядзёлка?** — звярнуўся я да гаспадара.

— Маці расказвала, што было гэта перад самай першай сусветнай вайной. Удзельнікі прадстаўлення (канцэрта), якія ставілі ў Клюшчанах канцэрт, абедалі ў нас. Вось у гэтым пакоі, дзе вы зараз сядзіце. Выбралі нашу хату па той прычыне, што мая маці Эмілія Феліксаўна славілася ў наваколлі ўмелай кухаркай, а суседка Клімовіч, якая працавала бонай (выхавальніцай) у шайкунскага папа Свольксня, умела "па-папоўску" накрываць стол.

Арганізавалі "прадстаўленне" ў Клюшчанах вядомыя дзеячы беларускага адраджэння Альбін і Кастусь Стаповічы. Прымала ўдзел у прадстаўленні разам з гасцямі з Вільні і мясцовая моладзь, якая вучылася ў Вільні і была на вакацыях. Трапілі з моладдзю ў наша "мядзведзева вуха" і такія знакамітасці, як Я. Купала і П. Мядзёлка, якія былі "душой" беларускай моладзі і знаходзіліся ў гэты час у Вільні: Купала працаваў адказным рэдактарам газеты "Наша ніва", а Мядзёлка адбывала ў Вільні курсавую практыку.

— Вось на гэтым месцы, на покуце, сядзеў Янка Купала, — паказвае Юзаф Францавіч, — поруч Паўліна Мядзёлка, Стаповічы як гаспадары былі ў канцы сталоў.

Усё прадстаўленне было па-беларуску. Дружным смехам сустракалі гледачы ўрыўкі з камедыі Купалы "Паўлінка", з замілаваннем слухалі выкананне на "простай" мове песень "Гусі", "Чырвоная калінача", "Салавейка", "Зялёны дубочак". Канцэрт зрабіў на прысутных такое ўражанне, што пазней, калі ксёндз Казімір Стаповіч (Казімір Сваяк) арганізаваў у Клюшчанах хор, то са сцэны гучалі толькі беларускія песні.

Адраджэнцы беларускасці не прызывалі, як некаторыя зараз, шанаваць родную мову, а проста карысталіся ёй. І гэта давала добры плён.

Быў на гэтым канцэрце і 14-гадовы сусед Хадорскага Адольф Клімовіч, будучы інжынер, грамадскі дзеяч, журналіст і выдавец. Сустрэча з беларускім пракорам зрабіла на яго такое ўражанне, што ён, нягледзячы на рэпрэсіі з боку польскіх і савецкіх уладаў, пранёс беларускасць праз усё жыццё.

У заключэнне мы наведалі сціплую магілку Адольфа Клімовіча – сучасніка і аднадумца Янкі Купалы.

**Яська ДРАЎНІЦКІ, кіраўнік гуртка "Валошкі".**

■ СУСТРЭЧЫ

## Армія Краёва вяртаецца

**МЯДЗЕЛ. Раён наведала група з Польшчы. Былі ў ёй былыя ўдзельнікі Арміі Краёвай, іх нашчадкі.**

Армія Краёва актыўна дзейнічала ў другую сусветную вайну на Мядзельшчыне. Адразу сумесна з савецкімі партызанамі супраць гітлераўцаў, пакуль партызаны не правялі «спецаперацыю» і не расстралялі 80 легіянераў брыгады «Кміціца». На гэтым месцы непадалёк ад вёскі Гатавічы ўстаноўлены памятны крыж. Палякі на гэтым месцы правялі імшу. Пабывалі на памятных для іх месцах і ў суседніх раёнах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ЛЕТА

## Летнік для семінарыстаў

**МЯДЗЕЛ. Два тыдні на базе адпачынку «Швакшты» праходзіў летні багаслоўскі інстытут.**

Слухачы былі не толькі з Жыровіцкай духоўнай семінарыі, але і Украіны. Мядзельшчына прымае незвычайны летнік ужо ў чацвёрты раз.

А дырэктар турысцка–аздараўленчага комплексу «Нарач» (сюды уваходзяць «Швакшты») Леанід Малец атрымаў ужо некалькі падзячных лістоў ад мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта за належныя ўмовы для летняга багаслоўскага інстытута.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ПАРТРЭТ

## Маладзечанскі Рабінзон



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

На "востраве" кахання, радасці і смутку: паўвека разам.

**МАЛАДЗЕЧНА. У яго іншае прозвішча, але, як сцвярджае сам Павел Арсенавіч, таксама рэдкае — Сталбавенка. А вобраз Рабінзона згадаўся мне тады, як першы раз патрапіў на яго агарод: ну, акурат умацаванні ад набегаў людаедаў, што час ад часу наведвалі востраў, які на 28 гадоў даў прытулак нешчасліваму мараку з Йорка. Агарод якраз і выклікаў падобныя асацыяцыі**

Павел Арсенавіч даглядае і ўмацоўвае агародчык ад варвараў, толькі ўжо нашага, айчыннага кшталту. Колькі бяды нарабілі яны на ўчастках знаёмых агароднікаў – не пераказаць. Добра, калі б спажывалі вырашчанае іншымі ды пра сябе дзякавалі працавітым людзям. Дык не, набягуць, патопчуць, панішчаць, што гарыць – папаляць. Даводзіцца бараніцца, арганізоўваць начныя дзяжурствы. Дапамагае, прызнаецца Сталбавенка.

Каб вы толькі бачылі, што на нейкіх дзесяці сотках, адваяваных у хмызнякоў і балота, могуць вырасціць нястомныя рукі! Усялякая агародніна, што ёсць у нашых краях, прыжылася на агародзе. І зяленіва, і дрэвы-кусты розныя. А якія цюльпаны, ружы, астры, нарцысы ды іншыя кветкі ўпрыгожваюць вольную ад іншых насаджэнняў тэрыторыю – трэба бачыць. Мы з аўтарам здымкаў вельмі шкадавалі, што чорна-белы друк не ў стане перадаць буянства фарбаў і гармонію адценняў.

Павел Арсенавіч колькі гадоў запар стварае кветнік у двары свайго дома, што па вул.Багдана Хмяльніцкага. Ускопваў зямлю, саджаў кветкі, палівае, даглядае – як дзяцей малых песціў, адным словам. Але прыходзіў дзень, дакладней, вечар – і кветкі зрывалі, нішчылі тое, што стваралася месяцамі. Цяпер прыкладанне сіл перанёс на агарод.

Вас, безумоўна, зацікавіла, хто гэта на здымку побач з Паўлам Арсенавічам. Дык жонка, Ксенія Андрэеўна. Мы ж папярэджвалі, што галоўнае падабенства з Рабінзонам Круза акурат у агародзе-крэпасці заключаецца. Усё ж астатняе ў Паўла Арсенавіча – як у іншых людзей. Хаця, ці так? Ці многа набярэцца такіх, хто ў сваё 75 з лёгкасцю штодня прабягае "дзесятку"? Альбо спявае ў вакальнай групе знакамітай "Спадчыны"? Судзіць няхай міжнародныя спаборніцтвы па гарадошнаму спорту, а то і сам біту ў рукі возьме? У Сталбавенкі на ўсё гэта хапае часу і, галоўнае, жадання. А ў жонкі разуменне ўспрымаць яго такім, які ёсць.

У жніўні Павел Арсенавіч і Ксенія Андрэеўна адзначаць "залатое" вяселле. "Рэгіянальная газета" першай віншуе адметную пару з набліжэннем гэтай падзеі. І спадзяецца, што ў яе супрацоўнікаў яшчэ будуць падставы завітаць ва ўладанні маладзечанскага Рабінзона.

**Іван МЁДАЎ.**

■ ЖНІВО-2002

# Час “Ч” названы

**МАЛАДЗЕЧНА. Жніво на Міншчыне пачнецца 15 ліпеня – такую ўводную паставіў перад удзельнікамі выязнога пасяджэння Мінаблвыканкома яго старшыня Мікалай Дамашкевіч. Пакінуць жа хлебную ніву апошні камбайн павінен не пазней чым праз 25 сутак ад гэтай даты.**

Маладзечанскі раён для правядзення выязнога пасяджэння аблвыканкома напярэдадні масавай уборкі збожжавых і збожжабабовых, думаецца, быў выбраны не выпадкова. Тут ладзяцца справы і ў раслінаводстве, і ў жывёлагадоўлі. І хаця, як падкрэсліваў не раз Мікалай Дамашкевіч, да поўнага задавальнення вынікамі эканамічнага развіцця раёна яшчэ далёка, станоўчыя зрухі ёсць. Добрыя словы ў кіраўніка абласной “вертыкалі” выклікала работа кіраўніцтва калгаса “Усход”, праз які пралёг галоўны маршрут удзельнікаў пасяджэння.

Жніву – галоўнай кампаніі сельскагаспадарчага года – будзе падпарадкавана ўсё: рабочы дзень і ва ўладных кабінетах, і на прадпрыемствах, і ў арганізацыях аграпрамысловага комплексу будзе пачынацца ў 6.00 і заканчвацца ў 24 гадзіны. Распрацаваны і зацверджаны меры маральнага і матэрыяльнага стымулявання як асобных яго ўдзельнікаў, так і цэлых калектываў і раёнаў. Аблвыканком здолеў адшукаць для гэтых мэт сродкі. Да таго ж за апошнія тры гады на Міншчыне закупілі амаль трэцюю частку сельгастэхнікі ад набытай у краіне. У тым ліку амаль 600 новых камбайнаў.

Як свой абавязак павінны ўспрыняць уборку і гараджане — гэты выраз рэфрэнам гучаў на пасяджэнні. “Намалоцім удосталь хлеба, нарыхтуем кармы, атрымаем малака і мяса – будзем мець больш грошай”, — даводзіў кіраўнік вобласці. А галоўны рэзерв — у кадрах, у іх адказнасці і дысцыплінаванасці. Вось толькі, як разбудзіць гэтыя якасці, – адназначнага адказу пакуль не прагучала.

Мікалай Дамашкевіч катэгарычна заклікаў кіраўнікоў раёна не жартаваць са справаздачнасцю і не спісваць на мароз альбо на спёку хлебныя гектары: нам не патрэбна фіктыўная ўраджайнасць, нам патрэбен “вал” у адпаведнасці з праграмай “Збожжа-2002”. А то ўжо дайшла інфармацыя, што пасяўныя плошчы ў вобласці зменшаны на цэлы раён. “Не мудрыце!” – папярэдзіў старшыня аблвыканкома.

Падчас “маладзечанскага” пасяджэння было прынята рашэнне ўстанавіць для пераможцаў жніва імянны пераходны прыз аблвыканкома імя Юрыя Гельмана. Камбайнер са Старадарожскага раёна летась памёр прама ў кабіне камбайна – не вытрымала сэрца. Хацелася б, каб гэта была апошняя ахвяра “бітвы” за ўраджай.

**Віталь АЛЯКСАНДРАЎ.**



Фота Аляксандра ЛАЗОЎСКАГА.

**Старшыня Маладзечанскага райвыканкома Сямён Касабуцкі і старшыня праўлення калгаса «Усход” Аляксандр Гірс. Поле калгаса “Усход”, 9 ліпеня.**

■ ГАНДАЛЬ

# Рынак на рэканструкцыі

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак і сераду калгасны рынак не працаваў. Яго закрылі ў сувязі з рэканструкцыяй электрасеткі.**

Палаткі з таварамі стаялі вакол тэрыторыі рынка. Дырэктар рынка Аляксей Увараў адказаў, што не ў яго кампетэнцыі дазваляць ці забараняць такі гандаль. Грошай за арэнду гандлёвых месцаў рынак не браў - гандлявалі па-за яго тэрыторыяй. Па сутнасці, два дні вакол тэрыторыі рынку гандлявалі несанкцыянавана.

У чацвер гандаль на рынку ішоў, але кілбасны, мясны і рыбны павільёны не працавалі з-за таго, што электрасеткі яшчэ не адрамантавалі. У чацвер прадавец рыбы у размове з карэспандэнтам “РГ”, скардзілася, што прадаўцоў не папярэдзілі аб тым, што ў чацвер рыбны павільён працаваць не будзе.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ, Ірына РАБУШКА.**



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**10 ліпеня. Карціны побач з бананамі. Ля калгаснага рынку ў Маладзечне.**

■ ЗДАРЭННЕ

# Купальская трагедыя

**ВІЛЕЙКА. На Купалле ў Вілейцы адбылося жудаснае здарэнне. Сужыцель забіў жанчыну і яе маці, а потым яго знайшлі ў дзвюх сотнях метраў ад мікрараёна павешаным.**

Расказвае начальнік крымінальнай міліцыі Вілейскага РАУС падпалкоўнік Аляксей Чарапан:

— Каля гадзіны ночы жыхар мікрараёна “Зеніт” патэлефанаваў у пажарную службу і выклікаў міліцыю. За пятнаццаць хвілін да гэтага ён адчуў дым у суседняй кватэры, спусціўся па лесвіцы, і, адчыніўшы дзверы, убачыў у задымленым пакоі нечыя ногі

Міліцэйскія і пажарныя машыны прыбылі да месца здарэння амаль аднachасова. Прыйшлося нават частку супрацоўнікаў аховы правапарадку, якія былі на Купаллі ў Ніжнім парку, перакідваць на іншы канец горада.

Калі трохі разагналі дым, убачылі два трупы жыхароў кватэры. Гэта былі маці 1926 года нараджэння і яе дачка 1965 года. Ніякіх нажавых ран ні ў адной, ні ў другой не было, як не было і прастрэлаў. Экспертыза паказала, што яны памерлі ад траўматычнага шоку, прасцей кажучы, ад таго, што іх моцна збілі.

Пазней высветлілася, што чорную справу зрабіў сужыцель дачкі, таксама жыхар Вілейкі. Канфлікты ў іх былі пастаянна, прычым часцей за ўсё настоеныя на гарэлцы: мужчына добра выпіваў. У гадзін восем вечара ён заседзеўся паверхам вышэй у сябра, прыйшла сужыцельніца і стала клікаць яго да сябе. А ў адзінаццаць гадзін вечара яна ўжо не дыхала.

Забойца паклаў трупы пасярэдзіне пакоя, накідаў на іх рыззя і адзення і падпаліў. Дом, дзе адбылося злачынства, стаіць каля чыгункі, за якой пачынаюцца гаражы і лес. Там забойцу знайшлі раніцай 7 ліпеня падлеткі, якія вырашылі адпачыць у гэтым месцы. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку і пракуратуры тым часам рабілі дадатковы агляд месца здарэння і выпрацоўвалі версіі. Калі перад імі з’явіліся ўсхваляваныя хлопцы, аператыўнікі зразумелі, што хутчэй за ўсё адна з іх версій – самазабойства – сцвердзілася.

Пасля ўчыненага мужчына кінуўся ўцякаць, але не было куды, і ён знайшоў самы лёгкі выхад: павесіцца.

**Ліпеньскае забойства – трэцяе па ліку за бягучы год. У 2001 годзе па горадзе і раёне іх было шэсць.**

Ён здзейсніў самагубства адразу пасля забойства: ранкам увесь задубеў, і крывападцёкі на штанах і ватоўцы зрабіліся рудымі.

Чалавек не стаяў ні на наркалагічным, ні на неўралагічным ўліку. Але відаць, што з ім нелады: колькі часу таму ў яго трагічна загінуў сын, а пасля такога выпадку кожны можа звар’яцець.

Звычайна цяжка знайсці матыў у жорсткім бытавым забойстве, але, відаць, сваю ролю сыграў пакручасты лёс чалавека, які зламаў яго і давёў да трагедыі.

**Аляксей ЧУБАТ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 4 ліпеня | 11 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1802,00 руб. | **1812,00** руб. |
| ЕЎРА | 1770,46 руб. | **1803,39** руб. |
| Злоты | 449,80 руб. | **432,56** руб. |
| Літ | 512,83 руб. | **522,23** руб. |
| Расійскі рубель | 57,18 руб. | **57,44** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1810 – 1830 руб. | **1840** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў чацвер на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 2.07 | 11.07 |
|---|---|---|
| **Рыс**, 1 кг | 650-950 | **700-950** |
| **Грэчка**, 1 кг | 510-600 | **560-590** |
| **Цукар**, 1 кг | 775 | **775** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 880 | **780-880** |
| **Алей**, 1 л | 1550-2000 | **1400-2000** |
| **Маянэз**, 200 г | 380-550 | **370-400** |
| **Кава “Пеле”**, 100 г | 1900 | **1900** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 500-580 | **550-580** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 1000-1200 | **1000-1100** |
| **Капуста**, 1 кг | 450 | **450** |
| **Лімоны**, 1 кг | 1900-2000 | **1800-1900** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1200-1600 | **1450-1500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 620-700 | **350-400** |
| **Памідоры**, 1 кг | 550-1900 | **1350-1650** |
| **Кавуны**, 1 кг | | **1600** |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| **Смятана**, 1 л | 1500-1800 | **1800-2000** |
| **Масла**, 1 кг | 3600-3800 | **3600** |
| **Тварог**, 1 кг | 1500 | **1200-1500** |
| **Малако**, 1,5 л | 500 | **500-600** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1400 | **1300-1400** |
| **Бульба маладая**, 1 вядро | 9000 | **3000-7000** |
| **Чарніцы**, 5-літровае вядро | 4000 | **4000-4500** |
| **Чорныя парэчкі**, 5-літр. вядро | 2500-3000 | **3000-4000** |
| **Вішня**, 5-літр. вядро | 4000 | **3000-3500** |
| **Маліны**, 5-літр. вядро | 5000-7000 | **6000** |
| Чырвоныя парэчкі, 5-л. вядро | | **2000** |

■ ХАРЧАВАННЕ

# Прадукты – атрута

**МАЛАДЗЕЧНА. Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі падвёў вынікі штомесячнай праверкі па захаванню санітарных правілаў гандлю. За чэрвень забракавана 182,8 кілаграма прадуктаў.**

За май – 39,9 кг. А з пачатку года – 605 кг. У асноўным, прадукты былі з прайшоўшым тэрмінам рэалізацыі. У спіс трапілі кісламалочныя прадукты, нават дзіцячы кефір, пельмені, масла, вяленыя акуні.

**Ірына РАБУШКА.**

■ РЫНАК ПРАЦЫ

# Беспрацоўныя выпускнікі

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі рэгіянальны цэнтр занятасці насельніцтва (МРЦЗ) прапануе 450 працоўных месц для маладых людзей. Але беспрацоўнай моладзі амаль удвая больш.**

На 1 ліпеня гэтага года на ўліку ў МРЦЗ знаходзіцца 784 чалавекі ва ўзросце да 29 гадоў. З іх 181 выпускнік.

Каб даведацца, якую работу могуць прапанаваць у цэнтры занятасці, мы звярнуліся да намесніка дырэктара МРЦЗ **Таццяны Мучынскай.**

— Перш за ўсё, малааплачваемыя пасады. Да прыкладу, вадзіцелі, прыбіральшчыцы, электрыкі, газазваршчыкі і інш. Летам лёгка ўладкавацца будаўніком і прадаўцом.

Па-другое, прапануем перападрыхтоўку. На курсах перападрыхтоўкі прапануюць спецыяльнасці, якія запатрабаваныя на рынку працы. Гэта маляры, швачкі, апаратары ПЭВМ, сакратары і інш. Звычайна 77% адразу знаходзіць работу.

Маладому спецыялісту, у якога няма працоўнага стажу, таксама складана ўладкавацца. Як правіла, работадаўца патрабуе не менш трох гадоў стажу.

У горадзе і раёне 8 сярэдніх спецыяльных устаноў. Сярод іх штогод найбольшую партыю беспрацоўных у МРЦЗ пастаўляюць палітэхнікум і гандлёва-эканамічны каледж. У апошнім размеркаванне выпускнікам не даецца.

Намеснік дырэктара па вучэбнай частцы **Любоў Хіневіч**:

— Усім сваім выпускнікам разам з дыпломам уручаем накіраванне ў цэнтр занятасці. Вось тыя, хто накіраваны да нас на вучобу ад прадпрыемстваў, цяжкасцей з працаўладкаваннем не маюць. Ва ўсіх 179 “мэтавікоў” пасля заканчэння ёсць працоўнае месца.

У політэхнічным тэхнікуме 321 навучэнец сёлета атрымаў дыплом па той ці іншай спецыяльнасці. З іх 235 атрымалі размеркаванне.

Намеснік па вучэбнай частцы **Юрый Якуновіч** гаворыць:

— Выпускнікі не ўладкоўваюцца на працу не з-за таго, што няма дзе працаваць. Моладзь не хоча працаваць за малыя грошы.

**Ірына РАБУШКА.**

# ВІНШАВАНКІ

**Зінаідзе Іосіфаўне Трубач**
з Маладзечна

Дарагая, любімая наша мамачка, жоначка і бабуля! Сардэчна віншуем цябе з юбілеем! Няхай беды і трывогі абмінаюць твой дом. Няхай сэрца тваё ніколі не ведае болю і смутку. Моцнага здароўя табе, дабра і спакою. І вялікі дзякуй за мацярынскую любоў, клопат аб нас.

*Мамочка наша родная, любимая,*
*Бабушка славная, незаменимая!*
*С юбилеем тебя поздравляем,*
*Всяческих благ тебе мы желаем:*
*Будь здоровой, родная, счастливой,*
*Не грусти и подольше живи,*
*Наша жизнь и теплей, и красивей*
*От твоей материнской любви.*

Родныя.

Віншуем з днём нараджэння **Святлану Вашкевіч**! Жадаем быць здаровай, паслухмянай, вучыцца на "выдатна". *Мама, тата, сястрычка.*

Віншуем з юбілеем **Святлану Мікалаеўну Сегіну**! Жадаем моцнага здароўя і сямейнага дабрабыту. *Юля, Оля, Лёня.*

Сардэчна віншуем **Валянціну Мікалаеўну Хаткоўскую** з 50-годдзем! Жадаем моцнага здароўя, шчасця.- *Сын, нявестка, унук Уладзік.*

Віншуем з юбілеем **Веру Уладзіміраўну Лашутку**! Хай будзе вечна на душы вясна, у сям'і радасць і спакой. *Капцюгі, Барысевічы.*



# ЗНАЁМСТВЫ

Жанчына 43/170-80 пазнаёміцца з адзінокім мужчынам. Згодная на пераезд. Жыллём забяспечана. Маладзечна-1. МС 00344690.

Я інвалід, хачу пазнаёміцца з дзяўчынай і стварыць сям'ю. Падрабязнасці ў пісьме. Маладзечна-7, п/п МС 0070807.

Мужчына 34 год пазнаёміцца з жанчынай 25-30 год для сур'ёзных адносін. Маладзечна-7, п/ п МС 0658381.

Сустрэну Вас разумнай, нясумнай, 63/178/80. Згодны на пераезд. Несудзімы. Брэсцкая вобл., г.Баранавічы-2, п/п АВ 0709849.

Прыемная жанчына 49/160/75 пазнаёміцца з прыемным добрым мужчынам для сяброўства. Маладзечна-6, п/п МС 0776863.

Прыемная жанчына 42/164/64 пазнаёміцца з адзінокім мужчынам. Маладзечна-4, п/п ОМ-ХІХ №860435.

Урач, свабодны, 53/170/77, без шк./зв., мінчанін, шукае жонку 35-42 год, прыгожую, стройную, худзенькую, з адным дзіцем. Дапамагу матэрыяльна. 220092, Мінск-92, д/з М. Васільчанку.

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Бомж і курыца

Падыходжу да прылаўка, выбіраю якую-небудзь кілбасу. Падыходзіць бомж і гаворыць:

— А куры вэнджаныя ёсць?

Прадавец адказвае:

— Не.

Бомж:

— ЖАХЛІВА...

Я ціха выпадаю ў асадак з нагоды матэрыяльнай забяспечанасці бамжоў і зацікаўленасці іх вэнджанымі курамі, а далей гучыць:

— А то я хацеў скрыні папрасіць...!

**Сямён БОНДАР.**



■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Пірог

Для цеста трэба 200 г смятаны, 200 г маянэзу, 3 яйкі, 1,5-2 шклянкі мукі (цеста павінна быць такое, як на аладкі), крыху соды, соль на смак. На разагрэтую патэльню, змазаную тлушчам, пакладзіце ў адзін слой парэзаную кружочкамі бульбу і заліце паловай цеста. Затым нарэжце ці сырую свініну, ці рыбу, ці капусту, 2 цыбуліны, пасыпце духмяным перцам, крыху пасаліце і выкладвайце ўсё гэта на цеста. Заліце астатнім цестам. Запякайце 30-40 хвілін. Калі пірог будзе гатовы, пераверніце яго на блюда другім бокам – бульбай уверх, – памажце маслам, упрыгожце зелянінай. У гэтым пірагу мяса можна лёгка замяніць больш танным прадуктам – рыбай або нават капустай, усё адно пірог будзе смачны.

## Пірог з цыбуляй

Цеста: 125 г маргарыну, 3 лыжкі смятаны, 1 шклянка мукі, соль на смак. Замясіць і паставіць на 1 гадзіну ў халадзільнік. Зрабіць начынку: 6 вялікіх цыбулін падсмажыць на алеі да залацістага колеру, насыпаць па 0,5 лыжачкі солі цукру, чорны і чырвоны перац на смак. Зрабіць заліўку: 4 яйкі, чырвоны перац, 1 шклянка добрай смятаны. Пакласці цеста ў патэльні на ўзроўні борцікаў, выкласці на яго начынку, затым акуратна заліць заліўкай. Выпякаць 20 хвілін на моцным агні, затым 20 хвілін на малым. Пірог рэзаць гарачы, а есці халодны.

## Пірог з салёнымі агуркамі

Дробна рэжам 3-4 сярэднія агуркі, дадаем 2 цыбуліны і тушым пад накрыўкай. Калі вадкасць выпарыцца, уліваем 2-3 лыжкі алею і тушым, пакуль цыбуля і агуркі не зробяцца мяккія. Варым шклянку рысу і злучаем яго з агуркамі і цыбуляй. Начынка гатовая. Робім звычайнае дражджавое цеста, дзелім яго на дзве часткі. Адну з іх раскачваем таўшчынёй у 1 см, кладзем на бляху і выкладваем на яго начынку. Раскачваем другі корж і кладзем яго зверху. Можна зрабіць на ім нажом які-небудзь малюнак. Затым змазваем яйкам і ставім у духоўку на 30-40 хвілін.

## Кінатэатр «Радзіма»

**15 - 21 ліпеня**

"РАДЗІМА". 15-18 ліпеня. "**Мумія вяртаецца**", ЗША, вострасюжэтны прыгодніцкі фільм — у 15.00, 19.00 і 21.00. 19-21 ліпеня "**Парк Юрскага перыяду**", ЗША – у 15.00, 19.00 і 21.00. 15-21 ліпеня – "**Бішунма – лятучы воін**", Карэя, баявік – у 17.00.

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

16 ліпеня – "**Малпавыя хітрыкі**" – у 11.00.

17 ліпеня – "**Атлантыда – згубленая імперыя**" – у 13.00.

18 ліпеня – "**Вяртанне да свабоды**" – у 11.00.

21 ліпеня – "**Новыя прыгоды Дональда Дака**" – у 13.00.

**Тэл. для даведак: 7-15-92.**

■ ІМЯНІНЫ

**12 ліпеня**
**Праваслаўныя:** Святых Апосталаў Пятра і Паўла, Фядоцці, Акакія, Нікана.
**Каталіцкія:** Веранікі, Брунона, Яна.
**13 ліпеня**
**Праваслаўныя:** 12 апосталаў: Андрэя, Варфаламея, Івана, Мацвея, Піліпа, Пятра, Сафрона, Сімона, Фадзея, Фамы, Юды, Якава.
**Каталіцкія:** Малгажаты, Андрэя, Генрыха, Эрнеста.
**14 ліпеня**
**Праваслаўныя:** Ангеліны, Дзям'яна, Кузьмы, Нікадзіма, Пятра.
**Каталіцкія:** Банавентуры, Каміля, Марцэля, Нікадзіма.
**15 ліпеня**
**Праваслаўныя:** Ювеналія.
**Каталіцкія:** Генрыха, Уладзіміра.
**16 ліпеня**
**Праваслаўныя:** Аляксандра, Анатоля, Васіля, Дзяміда, Івана, Канстанціна, Марка, Макея, Нікадзіма, Піліпа, Сцяпана, Яўлампія.
**Каталіцкія:** Марыі, Бенядзікта, Яўстаха.
**17 ліпеня**
**Праваслаўныя:** Марыі, Андрэя, Багдана, Фёдара, Фядота, Яфіма.
Каталіцкія: Ядвігі, Аляксея, Багдана.
**18 ліпеня**
**Праваслаўныя:** Ганны, Апанаса, Сяргея.
**Каталіцкія:** Каміля, Шымана.

## Не пакідайце дзяцей адных

**ВАЛОЖЫН. У сераду пахавалі 12-гадовага хлопчыка, які згарэў у кватэры 8 ліпеня.**

Бацькі адвезлі хлопца ў вёску, адкуль ён збег. Ключоў ад кватэры не было, і ён адчыніў дзверы з дапамогі адвёрткі і сякеры. Знайшлі з сябрам на балконе дзве каністры з бензінам і сталі гуляць з запалкамі. Раптам загарэўся агонь. Падлетак хацеў выцягнуць каністру ў пакой, каб выратаваць яе ад агню. Удалося, але атрымаў такія апёкі, што на заўтра памер у рэанімацыі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

Віншую тых, хто зарабіў на гэтым тыдні білеты ў кіно. Восем чалавек назвалі правільны адказ – цукар. Вось яны: **Алена Шышко, Віктар Пашынскі, Вячаслаў Маліноўскі, Святлана Курмель, Юлія Грабёнкіна, Яўген Дзюндзін, Юлія Рынкевіч, Юрый Мінец, Сяргей Салгалаў.** Білеты ў кіно чакаюць вас да наступнай пятніцы – 19 ліпеня ўключна.

Наступнае заданне. Калі памер Леанід Брэжнеў, то ўсім перыядычным выданням "зверху" спусцілі дырэктыву, апублікаваць партрэт генеральнага сакратара на першай палосе. Але рэдакцыя аднаго часопіса ўгаварыла партработнікаў не ставіць партрэт у іх выданне. Тлумачылі яны гэта тым, што пад лагатыпам часопіса партрэт Брэжнева будзе глядзецца не надта добра. Пытанне: што гэта за часопіс?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін – 16 ліпеня, 15-00) і прыходзьце ў рэдакцыю па запрашальны білет для дзвюх асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

## Купон 28

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

